# Голас Радзімы

№ 17 (2003)
23 красавіка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Два разы ў месяц у глядзельнай зале Дома культуры будаўнічага трэста № 1 горада Мінска падымае заслону самадзейны дзіцячы лялечны тэатр. Ён запрашае хлопчыкаў і дзяўчынак на прадстаўленні цікавых казак, пацяшальных, а часам і павучальных гісторый. Удзельнікі калектыву, школьнікі 13—15 гадоў, не толькі з захапленнем выконваюць ролі ў спектаклях, але з няменшым задавальненнем самі майструюць лялькі і дэкарацыі. Тэатр існуе ўжо чвэрць стагоддзя. За прайшоўшыя гады змянілася не толькі некалькі пакаленняў юных артыстаў, змяніўся і ён сам: стаў больш багатым і разнастайным рэпертуар, дасканалым майстэрства, значна вырас агульны творчы ўзровень. Таму сёння калектыў мае ганаровыя званні — узорны і народны, якімі ў нашай краіне адзначаюцца лепшыя прадстаўнікі самадзейнай мастацкай творчасці.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі самадзейнага лялечнага тэатра будаўнічага трэста № 1.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## ЗДАБЫТКІ І ПЕРСПЕКТЫВЫ МЕЛІЯРАЦЫІ



# ГЕКТАРЫ «ЗАЛАТОГА ДНА»

**З міністрам меліярацыі і воднай гаспадаркі Беларусі Аляксеем ШАХНОВІЧАМ гутарыць журналіст Міхась СТЭЛЬМАК.**

*— Аляксей Аляксеевіч! Цяжка перадаць уражанні нашых суайчыннікаў з-за мяжы, асабліва пажылых, якія наведваюць Бацькаўшчыну, ад перамен, што адбыліся тут за гады Савецкай улады. Ды што казаць, мы і самі бачым, як хутка адналяецца наша зямля. Хіба можна параўноўваць яе, сённяшнюю, з даваеннай, напрыклад?!*

*Асабліва ж здзіўляе суайчыннікаў сучаснае Палессе. Гіганцкія, проста неверагодныя, па іх словах, там перамены. І калі яны пытаюцца ў свайкоў ці землякоў, хто прынёс гэтыя перамены, звычайна чуюць адказ: «Меліяратары!..»*

— Наогул такое сцвярджэнне — не без падстаў, хаця і не зусім дакладнае. Бо не меліяратарамі ж стварaліся такія адметнасці цяперашняга Палесся, як шматлікія заводы і фабрыкі, нафтавыя вышкі, шахты, гарадскія пасёлкі і гарады. А вось што ім належыць прыярытэт у асваенні гэтага краю — бясспрэчна.

Першыя буйнамаштабныя работы на Палессі пачаліся пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Трыццаць дзевяты і саракавы, сорак шосты і пяцьдзесят чацвёрты — гады, адзначаныя ў гісторыі пераўтварэння Палесся грунтоўна распрацаванымі планамі, смелымі перспектывамі.

*— Дзейнасць вашага міністэрства сёння, Аляксей Аляксеевіч, вызначаецца яго цяперашнімі задачамі. Хацелася б пачуць пра галоўныя.*

— Меліярацыя — спецыфічная галіна народнай гаспадаркі Беларусі, якая абслугоўвае аграпрамысловы комплекс. Аб'ект нашай дзейнасці — зямля. А стан зямельных угоддзяў рэспублікі вызначаецца дробнаконтурнасцю і цераспалосіцай, прычына якіх у забалочанасці. На дробных жа кавалках немагчыма займацца інтэнсіўнай аграрнай вытворчасцю на індустрыяльнай аснове, рацыянальна выкарыстоўваць магутную сучасную сельскагаспадарчую тэхніку.

Ліквідацыя дробнаконтурнасці і цераспалосіцы, стварэнне буйных палёў, паляпшэнне якаснага стану глебаў—адзін з кірункаў нашай работы. Толькі шляхам меліярацыйнага і воднагаспадарчага будаўніцтва дасягаецца комплекснае і рацыянальнае выкарыстанне зямельных і водных рэсурсаў усімі галінамі народнай гаспадаркі.

Меліярацыя дазваляе таксама кампенсаваць страты зямель, якія адводзяцца для патрэб прамысловасці, горадабудаўніцтва і будаўніцтва на вёсцы, стварэння ахоўных тэрыторый.

Перспектыўнымі [illegible]эмі прадугледжана давесці да 2000 года плошчы асушаных зямель у рэспубліцы да 3,0—3,2 мільёна гектараў (сёння 2,5 мільёна гектараў, што складае 25,7 працэнта сельгасугоддзяў) і арашаемых да 0,3—0,4 мільёна гектараў.

З другога боку, мы вырашаем задачу павышэння эфектыўнасці ўжо выкарыстоўваемых, у тым ліку і меліяраваных раней зямель. Зараз ясна, што ў будучыні, калі прыпыніцца папаўненне фонду сельскагаспадарчых угоддзяў за кошт «дзікіх» плошчаў, павелічэнне прадукцыі земляробства будзе залежаць поўнасцю ад ураджайнасці культур, цесна звязанай з урадлівасцю глебы. Прынамсі, ужо сёння мы лічым гэту задачу галоўнай і ўдзяляем ёй максімум увагі, пра што сведчаць вынікі.

Толькі за два апошнія дзесяцігоддзі ўраджай асноўных сельскагаспадарчых культур павялічыўся амаль утрая. Калі, напрыклад, яшчэ ў канцы 60-х гадоў большасць гаспадарак збірала з гектара па 16—20 цэнтнераў збожжавых, то зараз многія калгасы і саўгасы рэспублікі выходзяць на рубеж 40—50 цэнтнераў.

*— Лічбы гэтыя красамоўна адлюстроўваюць эканамічны аспект меліярацыі. А як развівацца сама галіна? Ці пранікае ў яе навукова-тэхнічны прагрэс?*

— Два гады назад у СССР была прынята Даўгачасная праграма меліярацыі і павышэння ўраджайнасці акультураных зямель з мэтай устойлівага нарошчвання харчовага фонду краіны. У адпаведнасці з ёю разгортваюцца і нашы планы, накіраваныя на стварэнне стабільнасці ў выніках земляробства, прычым, стабільнасці на ўзроўні максімальна высокай урадлівасці кожнага гектара, незалежна ад негатыўных умоў надвор'я. Словам, тая галоўная задача, пра якую я гаварыў вышэй, заключаецца ў тым, каб арганізаваць гарантаваную вытворчасць збожжа, кармоў, гародніны...

Вядома, што без навукі тут ужо не абысціся, і яна прыйшла нам на дапамогу. Каля двух дзесяткаў навуковых установаў на чале з Беларускім навукова-даследчым інстытутам меліярацыі і воднай гаспадаркі (БелНДІМіВГ) заняліся праблемамі нашай галіны. Канешне, максімум увагі — Палессю. Аформіўся важны навуковы кірунак — «Праблемы Палесся». Па іх у Акадэміі навук БССР створаны навуковы савет. А пры Савеце Міністраў БССР стаў дзейнічаць Рэспубліканскі навукова-тэхнічны савет па праблемах меліярацыі. Над іх вырашэннем сёння працуюць спецыялісты розных галін ведаў: біёлагі, хімікі, фізікі, тэхнікі, матэматыкі, эканамісты. Ужо можна казаць і пра плён такога супрацоўніцтва.

Для прыкладу, адна з нядаўніх навінак вучоных — полеаўтамат. Асушальна-ўвільгатняльная сістэма аўтаматычна кіруе водна-паветраным, цеплавым і спажыўным рэжымамі глебаў. Работу сістэмы кантралюе адзін аператар з пульта. Стварэнне такіх палёў-аўтаматаў, дзе любым пераменам надвор'я супрацьстаіць матэматычная праграма, якая забяспечвае аўтаматызаванае водаразмеркаванне — шлях да атрымання гарантаваных ураджаяў.

Адзначу, што мала зрабіць меліяраваны гектар урадлівым. Важна пастаянна нарошчваць яго патэнцыял. І галоўнае тут — якасць глебы. Беларускія вучоныя склалі дэталёвыя аграхімічныя карты сельскагаспадарчых угоддзяў. Для гэтага ва ўсіх абласцях і раёнах рэспублікі былі адкрыты лабараторыі хімізацыі, якія забяспечваюць кантроль за станам зямлі. Кожнае поле, культурная паша атрымалі «пашпарт» з падрабязным апісаннем фізіка-кліматычнага саставу глебы. Такія «пашпарты» дазваляюць гаспадаркам больш рацыянальна размяркоўваць мінеральныя і арганічныя ўгнаенні.

*— Яшчэ ў пачатку нашай гутаркі быў закрануты і другі аспект меліярацыі — сацыяльны. Хацелася б, Аляксей Аляксеевіч, каб вы далі яму больш падрабязную ацэнку.*

— Агульнавядома, напрыклад, у якіх цяжкіх умовах жылі раней на Палессі людзі: на невялікіх астраўках сярод балот, без шляхоў зносін, фактычна адрэзаныя ад свету. А зараз?

Зараз на месцы непраходных балот, на асвоеных землях, створаны новыя саўгасы і калгасы, выраслі добраўпарадкаваныя пасёлкі, праляглі дарогі. У недалёкай перспектыве беларускае Палессе будзе даваць 1 мільён тон мяса ў год. Жывуць палешукі ў сучасных дамах з гарадскімі выгодамі. Праца вяскоўца ўсё больш ператвараецца ў разнавіднасць працы індустрыяльнай.

Яркі прыклад — саўгас «Парахонскі» Пінскага раёна. Яшчэ не так даўно тутэйшыя людзі жылі ў [illegible]акружэнні балот. А зараз т[illegible]ырокія палі, дзе асноўны[illegible]работы перакладзены на тэхніку.

На меліяраваных землях з'явілася і прамысловая індустрыя, якая дала штуршок да хуткага росту палескіх гарадоў і пасёлкаў. Жывуць і працуюць сёння [illegible] тым краі людзі нечуваных [illegible] да нядаўняга часу заняткаў і прафесій. Сярод іх — рэчыцкія нафтавікі і салігорскія шахцёры, светлагорскія хімікі і мікашэвіцкія гранітаздабытчыкі.

*— А цяпер, Аляксей Аляксеевіч, я стану на пазіцыю вашага апанента і выкажу думкі і настроі тых людзей, хто яшчэ нядаўна ды, часам, і зараз адмоўна або насцярожана ставіўся ці ставіцца да меліярацыі.*

— Калі быць шчырым, то не ўсім жыхарам асушаных зямель па душы цяперашнія індустрыяльныя краявіды. І іх можна зразумець: навакольныя хмызнякі ды балоты — гэта не толькі заганы прыроды, а і мілыя сэрцу мясціны. Далей. Разам з душэўным дыскамфортам меліярацыя падчас уносіла і бытавы. Напрыклад, бывалі выпадкі ў некаторых месцах, калі пасля асушальных работ у вясковых калодзежах, што размяшчаліся паблізу, зніжаўся ўзровень або нават знікала вада. Даводзілася чуць мне і такія меркаванні, што меліярацыя нясе шкоду рэкам: вялікія праз яе мялеюць, а малыя, каб не загінулі, патрабуюць спрамлення рэчышчаў. Можна прывесці і яшчэ шэраг контраргументаў. Словам, напрошваецца вельмі важнае пытанне. Ці не вораг меліярацыя прыродзе?

Бясспрэчна, меліярацыя зямель — гэта глабальнае ўмяшанне чалавека ў прыроду. Таму тут, як і ў кожнай іншай вялікай справе, ёсць, канешне, і памылкі, і няўлічаныя спадарожныя вынікі, і пралікі.

Не прыдавалі мы раней належнай увагі псіхалагічнаму аспекту меліярацыі. Мала тлумачылася насельніцтву яе эканамічная і сацыяльная неабходнасць. Таму і сталася, што эмоцыі часам бяруць верх над здаровай рэчаіснасцю. Менавіта ў гэтым мне бачацца галоўныя псіхалагічныя матывы супраціўлення індустрыяльным краявідам.

Трэба сказаць, што сучасную меліярацыю нельга мераць старымі меркамі. З ранейшых памылак зроблены сур'ёзныя вывады. Яна пастаўлена на прынцыпова новую аснову, сутнасць якой — навуковая абгрунтаванасць, комплекснасць, высокі тэхнічны ўзровень, прыродаахоўная скіраванасць.

Вось як, напрыклад, рэалізуецца прыродаахоўная скіраванасць. Зараз у басейне Прыпяці створаны ландшафтна-гідралагічны запаведнік, 13 заказнікаў, у тым ліку 8 журавінных, узяты пад ахову унікальныя ўчасткі карэльскай бярозы, ельнікаў. Паўсюдна ў БССР забаронена асушэнне верхавых балот, месцаў жыцця хахулі, гнездавання рэдкіх птушак. Сёння кожны 22-гі гектар беларускіх зямель — запаведны, ахоўны. І такіх гектараў будзе станавіцца ўсё больш.

Дык ці можна назваць адносіны паміж меліярацыяй і прыродай варожымі? Вядома, не. Доказам гэтаму паслужыць і яшчэ адзін прыклад. Той жа самы саўгас «Парахонскі». Тут на вялікіх плошчах створаны меліярацыйныя сістэмы з мелічным вадапад'ёмам. У любое надвор'е на палетках аптымальны водны рэжым, поўная гарантыя высокага ўраджаю. Сярод пасеваў — астраўкі гаёў, ахоўных ландшафтаў.

Прыгожая і ўдзячная ў «Парахонскім» зямля. За тое, што чалавек некалі ўклаў у яе і грошы, і веды, і сілу, і душу — шчодра зараз родзіць. Спаўна вяртае людзям свой доўг.

І так павінна стаць усюды, дзе прайшлі меліяратары. Гектары, якія раней ляжалі на дне балот,— з «залатымі жыламі». Яны могуць даць небывалыя дагэтуль ураджаі. Варта толькі праявіць шчыры гаспадарскі клопат пра іх. Гэтым клопатам мы і кіруемся ў сваёй працы.





**НА ЗДЫМКАХ: цэнтральная сядзіба калгаса «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна. Гэтая гаспадарка створана на месцы былых балот; меліярацыйныя работы ў Пінскім раёне.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

# НАС ВІНШУЮЦЬ

**Нядаўна «Голас Радзімы» адзначыў своеасаблівы юбілей—выхад 2000-га нумара. Задоўга да гэтай падзеі ў рэдакцыю пачалі прыходзіць віншаванні і пісьмы ад нашых чытачоў і прагрэсіўных арганізацый суайчыннікаў у розных краінах з меркаваннямі пра газету. З часткай з іх вы ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца ў юбілейным нумары. І да сённяшняга дня паток віншавальных пісем і паштовак не спыняецца. Выхад 2000-га нумара «Голасу Радзімы» адзначылі і прагрэсіўныя выданні нашых замежных суайчыннікаў. Сёння мы хочам пазнаёміць вас з віншаваннямі, апублікаванымі ў газетах «Вестник» і «Русский голос», і з некаторымі іншымі пісьмамі, што прыйшлі ў наш адрас ад арганізацый землякоў і асобных чытачоў.**

* * *

В апреле сего года газета «Голас Радзімы»—печатный орган Белорусского общества по культурным связям с соотечественниками за рубежом (Белорусское общество «Радзіма») отпечатает свой 2000-й номер.

Газета «Голас Радзімы» является связующим звеном между соотечественниками — выходцами из Белоруссии, и народом, из глубин которого они вышли.

В настоящее время, когда краеугольным камнем нашего существования является вопрос выживания человечества, когда мирные инициативы и действия Советского Союза вселяют надежду на положительное решение этого очень важного вопроса, каждое слово правды, донесенное до сознания читателей «Голасам Радзімы», является важным шагом на пути углубления доверия и взаимопонимания между народами.

В связи с выпуском 2000-го номера «Голасу Радзімы» Федерация русских канадцев и редакция газеты «Вестник» горячо поздравляют редактора, редакционную коллегию, читателей и друзей газеты с юбилейной вехой в ее истории.

Желаем «Голасу Радзімы» дальнейших успехов в его благородной и ответственной деятельности по связям с соотечественниками за рубежом! Пусть эти связи растут и крепнут на благо мира и дружбы всех народов!

**Главное правление ФРК,**
**редакция газеты**
**«ВЕСТНИК».**

* * *

Дорогие друзья из редакции газеты «Голас Радзімы»! Центральное правление Союза советских граждан в Бельгии и редакция журнала «Патриот» сердечно поздравляют сотрудников «Голасу Радзімы» с выходом в свет двухтысячного номера газеты и желают редакции плодотворной работы, а газете и в дальнейшем больших успехов среди читателей. Из «Голасу Радзімы» мы узнаем о жизни и достижениях белорусского и всего советского народа.

К большому сожалению, у нас очень мало членов ССГ, которые читают по-белорусски, а большинство читают только те статьи, которые вы печатаете на русском языке. Желательно, чтобы этих статей было побольше.

**Председатель Центрального правления ССГ**
**Вера КУШНАРЕВА,**
**редактор журнала «Патриот»**
**Полина ВАГА.**

* * *

Уважаемые друзья!

Мы можем сказать, что газета «Голас Радзімы» является для нас—русских, белорусов и украинцев—живой связующей нитью с нашей Родиной. Через вашу газету мы с радостью узнаем о великих достижениях, которые свершаются в Белоруссии, других союзных республиках. От всего сердца желаем «Голасу Радзімы», всем членам редакционной коллегии, сотрудникам Общества «Радзіма» успехов в вашей нужной и благородной деятельности во имя всеобщего мира на нашей планете, во имя дружбы между американским и советским народами.

**Комитет газеты**
**«РУССКИЙ ГОЛОС».**

* * *

Дарагія сябры!

Вялікае дзякуй за ваш клопат пра нас, хто апынуўся на чужыне. Далёка ад роднай зямлі доўгія гады атрымліваю вашу газету. Мы маем магчымасць чытаць у «Голасе Радзімы» аб тым, як нашы родныя і блізкія з кожным годам жывуць лепш і шчаслівей, і мне гэта дастаўляе вялікую радасць.

Дазвольце павіншаваць вас з выхадам двухтысячнага нумара газеты і пажадаць, каб яшчэ многія, многія гады «Голас Радзімы» радаваў нас, памагаў падтрымліваць духоўныя і культурныя сувязі з Айчынай.

Я лічу, што ўсе артыкулы ў вашай газеце цікавыя, разнастайныя і падбіраеце вы іх для нас вельмі ўдала. Можна прачытаць расказы аб жыцці вядомых пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў і спартсменаў, аб беларускіх касманаўтах. Можна пазнаёміцца з новымі вершамі і песнямі. Вядома ж, дзякуючы газеце мы добра ведаем аб важных палітычных падзеях у краіне, аб тых зменнях, якія там адбываюцца, маем магчымасць прачытаць выступленні і заявы савецкіх кіраўнікоў. Гэта галоўнае. Але мне цікава чытаць і малыя заметкі аб нібыта і нязначных рэчах—лекавых травах, касметыцы, кулінарных рэцэптах і г. д.

Кожны радок у газеце мне дарагі. Я з нецярпеннем чакаю чарговы нумар, каб зноў сустрэцца з нашымі роднымі словамі, якім мама нас вучыла яшчэ ў калысцы. Заўсёды ўспамінаю маміны байкі, дзяцінства, юнацтва і маладосць, якую ў нас аднялі фашысты. Мы адарваны ад роднай зямлі, і ваша газета падтрымлівае нас, дае адчуць, што мы не забыты Радзімай. Тут навокал чуеш чужую гаворку, а так хочацца пагаварыць на сваёй мове аб любімай і дарагой для нас зямлі. Калі атрымліваю газету, то ўсё забываю, захапляючыся сваёй роднай мовай.

Я вельмі задаволена маім мілым сябрам—газетай «Голас Радзімы». Вялікае вам дзякуй за вашу работу, за клопат аб нас.

**Надзея СІРАБАБ.**
Бельгія.

* * *

Паважаная рэдакцыя!

З выпадку выхаду двухтысячнага нумара «Голасу Радзімы» хачу павіншаваць вас і выказаць сваё меркаванне аб вашай газеце і ўвогуле аб савецкай прэсе, якую я выпісваю ўжо многа год. Што мне падабаецца ў вашых газетах, гэта праўдзівае адлюстраванне падзей. Нічога не фальсіфікуецца, чым не можа пахваліцца буржуазная прэса. У ёй нават гісторыя даецца ў скажоным выглядзе. І каму, як не нам, замежным суайчыннікам, не ведаць, дзе праўда, а дзе фальшыўка. Мы жывём у капіталістычным грамадстве, але бываем часта на Радзіме ў блізкіх сваякоў. Нам вядомы і праблемы, і ўсе добрыя бакі вашага жыцця.

З вялікай увагай і цікавасцю чытаю ў газеце «Голас Радзімы» артыкулы палітычных агляадальнікаў, гісторыкаў, эканамістаў. Больш друкуйце такіх матэрыялаў. Яны памагаюць нам рабіць аналіз міжнароднага становішча і даведвацца пра невядомыя для нас гістарычныя факты. У прыватнасці, у апошні час я знайшла многа новых звестак па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Усё гэта вельмі патрэбна, і я яшчэ раз прашу, каб друкавалі больш.

Газета ваша цікавая, і вельмі падабаецца беларуская мова, хоць я сама ўкраінка.

Жадаю ўсяму калектыву рэдакцыі новых творчых сіл і вялікіх поспехаў у рабоце над стварэннем такой патрэбнай замежным землякам газеты!

**Любоў МАГЛАВА.**
Бельгія.

* * *

Ужо многія гады мы атрымліваем ад вас газету «Голас Радзімы» і заўсёды сустракаем яе як дарагога госця ў нашым доме. Яна адкрывае нам вочы на падзеі ў свеце і надае нам бадзёрасці і сіл для ўдзелу ў барацьбе за мір.

Апошнім часам мы з цікавасцю чытаем выступленні савецкага кіраўніка М. С. Гарбачова і бачым, як многа робіць наша Радзіма для таго, каб захаваць мір, зберагчы ўсе народы ад ядзернай вайны. Шкада, што да вашых прапаноў не хоча прыслухацца прэзідэнт Рэйган і яго адміністрацыя. Але ён страчвае сваю рэпутацыю і аўтарытэт з кожным днём. Цяпер не толькі простыя працоўныя, але і многія кангрэсмены і сенатары выказваюць сваю нязгоду з палітыкай, якая можа прывесці чалавецтва да гібелі. Гэта палітыка задавальняе толькі тых, хто нажывае мільёны на гонцы ўзбраенняў. Але іх нямнога. А міралюбівую палітыку нашай Радзімы падтрымлівае большасць насельніцтва планеты. Усім нам трэба згуртавацца і ў адзін голас заявіць, што на зямлі няма месца для вайны, што мы не хочам паміраць, а хочам жыць у міры і дружбе.

**Сакратар аддзела ФРК горада Калгары Васіль ГАРАГЛЯД.**
Канада.

* * *

Віншуем вас з выхадам двухтысячнага нумара газеты «Голас Радзімы». Мы шчыра ўдзячны *вам за тое, што* вы даяце нам звесткі аб тым, што адбываецца на нашай Радзіме. Хаця мы даўно жывём удалечыні ад роднай зямлі, мы ніколі яе не забываем. Гэта наша родная маці, і мы рады ведаць усё, што адбываецца там. Мы радуемся яе поспехам і гаруем разам з вамі, калі здараецца бяда.

Ваша газета—гэта наша духоўнае жыццё. Я не ўяўляю, як бы мы жылі, калі б былі вамі забыты. Мы з нецярпеннем чакаем кожную вестку з Радзімы.

Хочам пажадаць і на будучыню не забываць нас. Хоць і не ўсе члены нашай арганізацыі чытаюць па-беларуску, але глядзяць газету ўсе. А календары, кнігі і часопісы, што вы нам прысылаеце, пастаянна пераходзяць з рук у рукі. Так што ваша работа неацэнная для нас. Жадаем вам і ў далейшым паспяхова яе працягваць.

**Старшыня рускага культурнага цэнтра ў горадзе Чыкага**
**Пелагея ТРУШЫНСКАЯ.**
ЗША.

* * *

Я вельмі ўдзячны вам за газету «Голас Радзімы», за тое, што не забываеце нас на чужыне. Шкада толькі, што хаця я і беларус, але беларускай мовы ніколі не вывучаў, і іншы раз бывае цяжка адразу ўсё зразумець. У часы маёй маладосці наша родная мова ўвогуле была забаронена белапалякамі. І ўсё ж я чытаю кожны нумар «Голасу Радзімы», некаторыя артыкулы перачытваю па некалькі разоў. Мяне радуюць вашы поспехі. Як змянілася наша Беларусь пры Савецкай уладзе! Я добра помню, якой глухой я пакінуў Заходнюю Беларусь 59 гадоў назад. А нядаўна мне пашчасціла пабываць на Радзіме, і я, хоць і не чакаў, убачыў зусім іншую карціну. Сапраўды, наша рэспубліка дабілася вялікіх поспехаў ва ўсіх галінах жыцця. Узяць хаця б Гродна. З заштатнага гарадка ён ператварыўся ў прыгожы горад, дзе многа заводаў і фабрык, тэатраў і навучальных устаноў, дзе маладыя людзі могуць вучыцца любой прафесіі. А колькі новых гарадоў пабудавана! Мяне проста ўразіў сваёй прыгажосцю Белаазерск, які ўзнік на голым месцы. Гэта толькі невялікая частка змяненняў у маёй Беларусі. Я ведаю, што іх многа, і ўсе яны робяць лепшым жыццё майго народа. Знаю я пра гэта з вашай газеты «Голас Радзімы».

Хачу перадаць вам сардэчныя віншаванні ад усіх членаў нашага аддзела і пажадаць вам, усяму беларускаму народу вялікіх поспехаў у культурным развіцці нашай роднай Беларусі.

**Сакратар аддзела ФРК горада Эдмантана**
**Фёдар ПРЫБЫШ.**
Канада.

# САМАЯ ПАМЯТНАЯ ПАДЗЕЯ

Для нас, замежных суайчыннікаў, як і для савецкіх людзей, самай памятнай падзеяй 1986 года стаў XXVII з'езд КПСС. Задачы, якія ён паставіў перад савецкім народам, па-сапраўднаму грандыёзныя.

У сваім дакладзе на з'ездзе Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў сказаў: «Размова ідзе пра тое, якім уступіць СССР у XXI стагоддзе, якімі стануць аблічча і пазіцыі сацыялізму на міжнароднай арэне, які заўтрашні дзень чалавецтва».

Можна толькі захапляцца тым, што, ідучы па новаму стратэгічнаму курсу сацыяльна-эканамічнага развіцця, наша Радзіма мае намер за 15 год стварыць столькі матэрыяльных каштоўнасцей, колькі было створана за ўсе папярэднія гады Савецкай улады. Пытанні, узнятыя на з'ездзе, тычацца не толькі Савецкага Саюза, яны звязаны з інтарэсамі ўсіх жыхароў Зямлі. «Вялікія планы эканамічнага і сацыяльнага развіцця Савецкага Саюза вызначаюць і міжнародную палітыку нашай краіны,— гаварылася ў дакладзе.— Яе галоўная мэта — забяспечыць савецкаму народу, народам усёй планеты мір і свабоду».

Цудоўна сказана ў дакладзе аб адной з галоўных прычын, якія прымусілі СССР пачаць перабудову эканомікі, пераведшы яе на паскораныя тэмпы развіцця: «У вачах прагрэсіўнай грамадскасці свету Савецкі Саюз быў і застаецца ўвасабленнем векавых сацыяльных надзей людзей. Ён павінен быць і прыкладам найвышэйшай арганізацыі, эфектыўнасці сваёй эканомікі. Такім чынам, задача паскарэння развіцця краіны набыла сёння першараднае палітычнае, эканамічнае і сацыяльнае значэнне». Што гэта сапраўды так, няцяжка пераканацца, назіраючы за сусветнымі падзеямі апошніх год. Краіна Саветаў з самага свайго нараджэння была вымушана процістаяць капіталістычнаму свету, які імкнуўся ўсімі сіламі задушыць першую ў гісторыі чалавецтва сацыялістычную дзяржаву. Але гісторыя чалавецтва рухаецца наперад, а не назад. Краіны, якія былі каланіяльнымі, пачуўшы, нарэшце, словы праўды, узнялі галовы, разарвалі ланцугі рабства. Гэтыя краіны з вялікай надзеяй глядзяць на сацыяльныя і эканамічныя перамены, што адбываюцца ў свеце, асабліва на развіццё сацыялізму ў такой дзяржаве, як СССР. Яны ведаюць, што гэта вялікая краіна, дзвізам якой з'яўляюцца адзінства ўсіх народаў, мір і свабода, у патрэбны момант акажа ім брацкую дапамогу ў развіцці.

Няма ніякага сумнення, што даклад М. С. Гарбачова зрабіў каласальнае ўражанне на ўсіх людзей, хто цікавіцца палітычным жыццём.

Вядома, камерцыйныя тэле- і радыёкампаніі, што знаходзяцца ў руках капіталістычных заправіл, пастараліся замаўчаць гэтую гістарычную падзею. Але людзі ўжо навучыліся разумець усё самі, чытаць паміж радкоў і рабіць свае вывады.

Прагрэсіўныя замежныя суайчыннікі сустрэлі з захапленнем рашэнні і пастановы XXVII з'езда КПСС. Яны набылі як бы новую зброю для барацьбы з космасцю, мяшчанствам і цемрашальствам людзей, якія займаюцца паклёпам на вялікі савецкі народ.

«Перад намі грамада дня, гаворыцца ў дакладзе, ці зможам мы справіцца? Упэўнены, што зможам». Калі савецкая рэспубліка ў неймаверна цяжкім становішчы рабіла першыя крокі да сацыялізму, Ленін з упэўненасцю пісаў: «Вылезем, таму што не прыхарошваем свайго становішча. Ведаем усе цяжкасці. Бачым усе хваробы. Лячылі іх сістэматычна, упарта, не ўпадаючы ў паніку».

Аптымізм народа, глыбокая вера ў праўду надаюць яму сілу смела ісці да пастаўленай мэты — забяспечыць савецкаму народу, народам усёй планеты трывалы мір і свабоду.

**Эразм ЛЯВІЦКІ.**
Аўстралія.



Навукова-тэхнічная творчасць — даволі папулярны занятак сярод нашай моладзі. Машыны, прыборы, розныя прыстасаванні, зробленыя рукамі маладых, знаходзяць практычнае прымяненне ў народнай гаспадарцы. Можна ўбачыць гэтыя работы і на спецыяльных выстаўках.

Адна з іх адкрыта ў Рэспубліканскім доме тэхнічнай творчасці. Свае навінкі паказвае тут моладзь Мінскай вобласці. Цікавыя распрацоўкі прадставілі інстытуты Акадэміі навук БССР, Навукова-даследчы інстытут сродкаў аўтаматызацыі і іншыя калектывы.

НА ЗДЫМКАХ: удзельнік выстаўкі навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі АН БССР Уладзімір КВАЧ (злева) і прадстаўнік Мінскага механічнага завода імя Вавілава Генадзь РАШАЦЬКО; у залах выстаўкі.

Фота А. ТАЛОЧКІ.



# ЗАПРАШЭННЕ ДА КОНКУРСУ!

**РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС НА ЛЕПШАЕ ПІСЬМО НАШЫХ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ, ПРЫСВЕЧАНАЕ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ.**

Паважаныя суайчыннікі!

У гэтым годзе наша Радзіма будзе святкаваць свой гістарычны юбілей. Сем дзесяцігоддзяў назад у Расіі адбылася Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і пачалося ажыццяўленне запаветнай мары працоўных людзей — будаўніцтва грамадства, дзе праца свабодная ад эксплуатацыі, дзе пануе сацыяльная справядлівасць, дзе замест нацыянальнай розні перамагае дружба народаў.

Вам, паважаныя суайчыннікі, каму па волі лёсу даводзіцца жыць на чужыне, добра вядома, колькі выпрабаванняў і нягод выпала за гэтыя гады на долю нашай Айчыны. Для большасці з вас іменна яны і сталі прычынай разлукі з родным краем. Але мы ведаем і ганарымся тым, што нашы землякі ўдалечыні ніколі не забывалі і не забываюць Радзіму, назаўсёды захавалі любоў да яе, уважліва сочаць за ўсімі падзеямі ў нашай краіне. Аб гэтым вы пішаце нам у пісьмах, расказваеце пры сустрэчах у Беларусі. Добра ведаем мы і аб тым, што ў многіх капіталістычных краінах, дзе жывуць суайчыннікі, супраць нашай Савецкай дзяржавы пастаянна вялася і вядзецца кампанія нападак і паклёпу, сродкі масавай інфармацыі з усіх сіл стараюцца ўнушыць людзям страх, пасеяць недавер'е да першай у свеце краіны сацыялізму, запалохваюць іх міфічнай пагрозай з Усходу.

Але, што б ні гаварылі пра нас ворагі, факт застаецца фактам: раней бедная і непісьменная, наша краіна за лічаныя дзесяцігоддзі дасягнула нябачнага ў гісторыі эканамічнага, навуковага і сацыяльнага прагрэсу.

Усё гэта адбывалася і адбываецца на вашых вачах, паважаныя чытачы. Большасць нашых суайчыннікаў, якія жывуць у розных краінах за тысячы кіламетраў ад роднага краю, ніколі не парывалі духоўных сувязей з ім, усім сэрцам усвядомілі і адчулі веліч сваёй сацыялістычнай Радзімы. Яны ганарацца яе дасягненнямі, дзеляць з намі яе радасці і беды. Успомнім хаця б суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны. Колькі сіл і энергіі было аддадзена суайчыннікамі, каб адправіць на сваю Радзіму харчаванне, адзенне, медыкаменты, грошы.

З першых дзён існавання нашай дзяржавы яна выступала за мір паміж народамі планеты. Паслядоўная міралюбівая палітыка Савецкага Саюза заваявала нашай краіне і яе ўраду высокі аўтарытэт ва ўсіх людзей добрай волі на Зямлі. Актыўна падтрымліваюць яе і нашы замежныя суайчыннікі. Многія арганізацыі і асобныя землякі выказваюць гэты клопат, рэгулярна пералічваючы грошы ў Савецкі фонд міру.

Напярэдадні вялікага свята нашай краіны — 70-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі мы звяртаемся да ўсіх нашых замежных чытачоў з прапановай прыняць удзел у конкурсе на лепшае пісьмо, прысвечанае гэтай падзеі. Мы просім вас уваскрасіць у памяці былое і, аглянуўшыся на пражытыя гады, расказаць аб самых памятных і хвалюючых падзеях, якія пакінулі глыбокі след у вашым сэрцы. Мы просім вас падзяліцца сваімі ўспамінамі аб розных перыядах жыцця Радзімы, сведкамі якіх вы былі, расказаць аб сустрэчах з роднай зямлёй пасля доўгіх год разлукі, падзяліцца думкамі і аб тым, у чым вы бачыце аснову і сілу нашай сацыялістычнай дзяржавы, у чым, на ваш погляд, перавагі савецкага ладу жыцця.

У кожнага з вас свая любоў да Радзімы, сваё разуменне падзей, якія адбываюцца тут. Кожны па-свойму ўспрымае і тыя вялікія перамены, якія адбыліся і адбываюцца ў нашай краіне.

Некаторыя з вас яшчэ помняць, якой была Беларусь да ўстанаўлення тут Савецкай улады. Сцяпан Філютовіч з Аргенціны, напрыклад, многа расказваў нам аб тым, як яго родныя жылі ў курных хатах без падлогі, разам са свойскай жывёлай, аб тым, што яго сям'я была вымушана паехаць, таму што не было сваёй зямлі і не было на што жыць. У канцы гутаркі ён сказаў: «Нават калі б вы не зрабілі нічога іншага, я б прагаласаваў за Савецкую ўладу толькі за тое, што яна дала маім аднавяскоўцам зямлю і ім не трэба і ніколі не давядзецца бадзяцца па чужых краях у пошуках хлеба». Для нашага земляка з Канады Уладзіміра Гаўрыцкага самымі яркімі ўражаннямі пасля паездкі на Радзіму стала тое, што любы чалавек можа тут бясплатна атрымаць медыцынскую дапамогу, адукацыю, назаўсёды пазбаўлены страху згубіць работу.

Словам, тэмы вашых пісем могуць быць самымі рознымі, таму што ўсё, што мае сёння наш народ, чым ганарыцеся вы, нашы паважаныя суайчыннікі, было б немагчыма без перамогі Вялікага Кастрычніка.

Упэўнены, што кожнаму з вас ёсць што сказаць наконт гэтага. Мы чакаем вашых пісем. Яны будуць апублікаваны на старонках «Голасу Радзімы». Аўтарам найбольш цікавых пісем Беларускае таварыства «Радзіма» і рэдакцыя газеты вышлюць памятныя падарункі і сувеніры.

Пішыце нам па адрасу:

**МІНСК-ГСП,**
**ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ**
**«ГОЛАС РАДЗІМЫ».**

# ПРИГЛАШЕНИЕ К КОНКУРСУ!

**РЕДАКЦИЯ ГАЗЕТЫ ОБЪЯВЛЯЕТ КОНКУРС НА ЛУЧШЕЕ ПИСЬМО НАШИХ ЗАРУБЕЖНЫХ СООТЕЧЕСТВЕННИКОВ, ПОСВЯЩЕННОЕ 70-ЛЕТИЮ ВЕЛИКОЙ ОКТЯБРЬСКОЙ СОЦИАЛИСТИЧЕСКОЙ РЕВОЛЮЦИИ.**

Уважаемые соотечественники!

В этом году наша Родина будет праздновать свой исторический юбилей. Семь десятилетий назад в России произошла Великая Октябрьская социалистическая революция и началось претворение в жизнь заветной мечты трудящихся людей — строительство общества, где труд свободен от эксплуатации, где царит социальная справедливость, где вместо национальной розни торжествует дружба народов.

Вам, уважаемые соотечественники, кому по воле судьбы приходится жить на чужбине, хорошо известно, сколько испытаний и невзгод выпало за эти годы на долю нашего Отечества. Для большинства из вас именно они и стали причиной разлуки с родным краем. Но мы знаем и гордимся тем, что наши земляки в дальних странах никогда не забывали и не забывают Родину, навсегда сохранили любовь к ней, внимательно следят за всеми событиями в нашей стране. Об этом вы пишете нам в письмах, рассказываете при встречах в Белоруссии. Хорошо знаем мы и о том, что во многих капиталистических странах, где проживают соотечественники, против нашего Советского государства постоянно велась и ведется кампания нападок и клеветы, средства массовой информации из всех сил стараются внушить людям страх, посеять недоверие к первой в мире стране социализма, запугивают их мифической угрозой с Востока.

Но, что бы ни говорили о нас недруги, факт остается фактом: ранее нищая и безграмотная, наша страна за считанные десятилетия достигла невиданного в истории экономического, научного и социального прогресса.

Все это происходило и происходит на ваших глазах, уважаемые читатели. Большинство наших соотечественников, проживающих в разных странах за тысячи километров от родного края, никогда не порывали духовных связей с ним, всем сердцем осознали и прочувствовали величие своей социалистической Родины. Они гордятся ее достижениями, делят с нами ее радости и горести. Вспомним хотя бы суровые годы Великой Отечественной войны. Сколько сил и энергии было отдано соотечественниками, чтобы отправить на свою сражающуюся Родину продовольствие, одежду, медикаменты, деньги.

С первых дней существования нашего государства оно выступало за мир между народами планеты. Последовательная миролюбивая политика Советского Союза завоевала нашей стране и ее правительству высокий авторитет у всех людей доброй воли на Земле. Активно поддерживают ее и наши зарубежные соотечественники. Многие организации и отдельные земляки выражают эту заботу, регулярно перечисляя деньги в Советский фонд мира.

В канун большого праздника нашей страны — 70-летия Великого Октября мы обращаемся ко всем нашим зарубежным читателям с предложением принять участие в конкурсе на лучшее письмо, посвященное этому событию. Мы просим вас воскресить в памяти былое и, оглянувшись на прожитые годы, рассказать о самых памятных и волнующих событиях, которые оставили глубокий след в вашем сердце. Мы просим вас поделиться своими воспоминаниями о различных периодах жизни Родины, свидетелями которых вы были, рассказать о встречах с родной землей после долгих лет разлуки, поделиться мыслями и о том, в чем вы видите основу и силу нашего социалистического государства, в чем, на ваш взгляд, преимущества советского образа жизни.

У каждого из вас своя любовь к Родине, свое понимание происходящих здесь событий. Каждый по-своему воспринимает и те огромные перемены, которые произошли и происходят в нашей стране.

Некоторые из вас еще помнят, какой была Белоруссия до установления здесь Советской власти. Степан Филютович из Аргентины, например, много рассказывал нам о том, как его родные жили в курных хатах без пола, вместе с домашними животными, о том, что его семья была вынуждена уехать, так как не было своей земли и жить было не на что. В конце беседы он сказал: «Даже если бы вы не сделали ничего другого, я проголосовал бы за Советскую власть лишь за то, что она дала моим односельчанам землю и им не нужно и никогда не придется скитаться по чужим краям в поисках хлеба». Для нашего земляка из Канады Владимира Гаврицкого самыми яркими впечатлениями после поездки на Родину стало то, что любой человек может здесь бесплатно получить медицинскую помощь, образование, навсегда избавлен от страха потерять работу.

Словом, темы ваших писем могут быть самыми разными, ведь все, что имеет сегодня наш народ, чем гордитесь вы, наши уважаемые соотечественники, было бы невозможно без победы Великого Октября.

Уверены, что каждому из вас есть что сказать по этому поводу. Мы ждем ваших писем. Они будут опубликованы на страницах «Голасу Радзімы». Авторам наиболее интересных писем Белорусское общество «Радзіма» и редакция газеты вышлют памятные подарки и сувениры.

Пишите нам по адресу:

**МИНСК-ГСП,**
**ЛЕНИНСКИЙ ПРОСПЕКТ, 44.**
**РЕДАКЦИЯ ГАЗЕТЫ**
**«ГОЛАС РАДЗІМЫ».**

